# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

№ 25 (904) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 24 ЧЭРВЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


## ПЯСНЯРКІ З ТАПЧЫКАЛ

Тапчыкалаўскімі жанчынамі захапляліся прысутныя на павятовым конкурсе „Беларуская песня — 73“ у Бельску. На фінальным аглядзе ў Беластоку яны яшчэ лепш заспявалі. І многа апладысментаў атрымалі ад гарадской публікі. Добрае ўражанне зрабіў іх аднолькавы ўбор, белыя блузкі, накінутыя на плечы хусткі і цёмныя спадніцы. Не выглядала, што маюць яны шмат цяжкай працы кожны дзень, і многа розных абавязкаў. Як яны жывуць і працуюць, у вялізным скарачэнні раскажам вам, чытачы, у гэтай публікацыі.

Ніна Жменька са сваім мужам Грышам гаспадарыць на 7 га зямлі. Маюць дзве дойныя каровы, 4 штукі маладняку, здаюць па 10 літраў малака ў дзень. У іх дзве дочкі. Валі 16 год. Вучыцца яна ў беларускім ліцэі ў Бельску. Маня ходзіць у 6 клас у Пашкоўшчыне. У мінулым годзе Жменькі купілі трактар і цяпер муж едзе на поле трактарам, а жонка фурманкаю.

Маня Крук — самая галоўная спявачка. Так аб ёй сказалі Ніна Жменька і Ніна Сікора. У яе сям'я складаецца з 5 асоб — мужа, старэнькай маці і дваіх дзяцей. Дачка Ніна вучыцца на рускай філалогіі ў Гданьску, а сын Славік яшчэ ў падставовай школе. Гаспадараць яны на 8 га зямельных угоддзяў. Гадуюць Крукі тры дойныя каровы, ад якіх прадаюць дзяржаве па 20 літраў малака ў дзень. Хата іх мураваная, з жалезнай

Працяг на стар. 4



*Над Нарвай.* *Фота Я. Цялушэцкага.*




*Спявачкі з Тапчыкал падчас выступлення на фінальным конкурсе «Беларуская песня — 73». Злева направа Н. Жменька, М. Крук, Г. Баран, Н. Сікора (фота А. Карпюка).*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

**Гаворыць намеснік старшыні па сельскагаспадарчых справах Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы ● Праца, якая заняла I месца ў конкурсе ТППР у Беластоку на ўспамін аб пабыўцы ў СССР ● Літаратурная старонка ● „Фасты“ ў юбілейным годзе ● Фотарэпартаж з фэстына ў Шудзялаве ● Імя генерала... ● У абдымках смерці ● Весткі з Барысаўкі, Адрынкаў, Грэдалёў, Нарвы, Гданьска і Белавежы ● Песня „Takie ładne oczy”.**

## БГКТ У ГОДЗЕ ЗАЛАТОГА ЮБІЛЕЮ СССР

Вялікая гістарычная дата — 50 год ад часу ўтварэння першай на свеце многанацыянальнай дзяржавы працоўных мас, Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — была ўрачыста адзначана грамадствам усёй нашай краіны. Галоўнае праўленне, аддзелы і гурткі Беларускага грамадска-культурнага таварыства асабліва актыўна ўключыліся ў святкаванне залатога юбілею Краіны Саветаў. І не будзе перабольшаннем сцверджанне, што кожны гурток і кожны актывіст нашай арганізацыі палічылі сваім гонарам унесці як мага болей сваёй ініцыятывы і асабістага ўкладу для ўшанавання гэтай знамянальнай гадавіны. Таму і прынятыя планы дзейнасці і іх выкананне адзначаліся багаццем форм, стараннасцю ў рэалізацыі і масавым удзелам людзей.

Ужо шматлюдныя фэстыны, якія арганізавалі ў чэрвені і ліпені мінулага года аддзелы БГКТ у паветах і якія праходзілі пад лозунгам „50 год СССР“, ператварыліся ў вялікія народныя святы. Іх удзельнікі слухалі даклады аб дасягненнях гаспадаркі і культуры Краіны Саветаў, аб яе міралюбівай палітыцы ў свеце. Беларускія, рускія і песні іншых савецкіх народаў, танцы і гумар у выкананні мясцовых самадзейных калектываў красачна аздаблялі ўрачыстасці, што часам працягваліся аж да світання.

Дзесяткі лекцый, дакладаў, гутарак, мноства фота- і насценных газет знаёмілі насельніцтва вёсак, мястэчак і гарадоў з велічнымі пераўтварэннямі і дасягненнямі ў грамадскім жыцці, эканоміцы, асвеце, навуцы і культуры, якіх дабіўся савецкі народ за паўстагоддзя сваёй дзяржаўнасці. Урачыстае адзначэнне 90-ай гадавіны з дня нараджэння вялікіх беларускіх пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, якое арганізавала ў перыядзе чэрвень—лістапад 1972 года БГКТ, паказ папулярнасці гуманістычных ідэй і мастацкіх твораў светачаў беларускай літаратуры не толькі ва

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

■ 3 чэрвеня з нагоды Міжнароднага дня дзіцяці гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў цікавае мерапрыемства для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі БГКТ.

■ 5 чэрвеня адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення беластоцкага павятовага аддзела супольна з суарганізатарамі беларускага народнага фэстына ў Рыбаках, які адбудзецца 1 ліпеня. У пасяджэнні прынялі ўдзел: Аліцыя Янкоўская — кіраўнік аддзела культуры прэзідыума ПРН у Беластоку, Уладзіслаў Анджэеўскі — старшыня павятовага праўлення ЗСМВ, Чэслаў Ляўко — старшыня павятовага праўлення ЛЗС, Пётр Дзяконскі — прадстаўнік ВП, Баляслаў Сырдацкі — начальнік гміны Шымкі, Мікалай Міруць — старшыня ГРН і адначасова старшыня сельгасгуртка ў Бандарах, Мікалай Хлябіч — солтыс вёскі Рыбакі і старшыня мясцовага гуртка БГКТ, Валя Філіпюк — кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ. Удзельнікі нарады абмяркоўвалі арганізацыйныя справы, звязаныя з беларускім фэстынам у Рыбаках. У гэтай справе адбылася яшчэ 8 чэрвеня рабочая нарада ў гміне Шымкі, на якой паасобным людзям прыдзелены былі канкрэтныя заданні.

■ Варшаўскі аддзел БГКТ наладзіў супрацоўніцтва з тамашнім аддзелам Рускага таварыства. 8 чэрвеня адбыўся свайго роду ўрачысты пачатак гэтага супрацоўніцтва. Сакратар варшаўскага аддзела Віктар Швед у памяшканні Рускага таварыства расказаў прысутным аб дзейнасці БГКТ, а пасля чытаў свае вершы.

■ 9 чэрвеня Прэзідыум ГП БГКТ правёў сваё пасяджэнне ў Бельску супольна з прэзідыумам праўлення мясцовага аддзела. Галоўным пунктам павесткі дня была ацэнка працы бельскага аддзела, якую падрыхтавалі працаўнікі ГП і якую прачытала Надзя Даніловіч — кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП. Папоўніла гэтую ацэнку шырокая дыскусія. Затым старшыня ГП Мікалай Самоцік прадставіў праграму арганізацыі беларускіх народных фэстынаў і праінфармаваў аб мерапрыемствах, звязаных з святкаваннем на Беласточчыне „Дзён Савецкай Беларусі“, да чаго шырока ўключаецца БГКТ.

■ Аддзел беластоцкага павятовага праўлення БГКТ апрацаваў праграму мерапрыемстваў з нагоды святкавання „Дзён Савецкай Беларусі“. (мх)

 

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

### Р. НІКСАН АБ ВІЗІЦЕ Л. БРЭЖНЕВА

Калі мы аддаем гэты нумар да друку, у Белым доме адбываецца цырыманіял прывітання Генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Брэжнева, які прыбыў у Злучаныя Штаты Амерыкі з афіцыйным візітам. Гэты візіт друк і радыё назвалі найважнейшай міжнароднай падзеяй гэтага года.

Паколькі візіт толькі распачаўся, прыводзім змест прамовы Ніксана, які, выступаючы перад выпускнікамі Фларыдскага тэхналагічнага інстытута, вітаў візіт Л. Брэжнева.

Прывёўшы словы Л. Брэжнева аб тым, што "сёння наша планета бліжэй да трывалага і працяглага міру, чым калінебудзь раней", прэзідэнт ЗША заявіў: „Я веру, што калі мы зробім тое, што зможам, калі Амерыка будзе выконваць свае абавязкі і калі мы будзем карыстацца супрацоўніцтвам іншых краін, такіх, як Савецкі Саюз, то вы, выпускнікі гэтага года, маеце магчымасць стаць першым у нашай краіне пакаленнем, якое вырасце без вайны. Такая мэта, якую мы маем намер дасягнуць".

„Усе вы ведаеце, — працягваў Р. Ніксан, — што мы ўжо заключылі дагавор аб абмежаванні сістэм процiракетнай абароны. У час маючагася адбыцца візіту мы будзем весці з Савецкім Саюзам перагаворы аб заключэнні іншых пагадненняў. Гэта будуць вельмі важныя пагадненні. Яны не ліквідуюць разнагалоссяў паміж нашымі сістэмамі, якія будуць існаваць да таго часу, пакуль яны будуць верыць у адно, а мы будзем верыць у штосьці іншае. Але гэтыя пагадненні азначаюць для ўсіх нас, і асабліва для вас, выпускнікоў, тое, што дзве вялікія дзяржавы — Злучаныя Штаты і Савецкі Саюз замест таго, каб праціборстваваць адзін з адным, замест таго, каб мець адзін з адным у важнейшых раёнах свету трэнні, якія маглі б выліцца ў вайну — не маленькую, а ядзерную вайну, — што мы, Злучаныя Штаты і Савецкі Саюз, усё больш навучымся размаўляць адзін з адным і весці адзін з адным перагаворы, каб уладжваць нашы разнагалоссі. Гэта не будзе лёгка ні ім, ні нам. Але мы цяпер стварылі сродак, з дапамогай якога зможам рухацца ў гэтым напрамку".

### НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

У Празе адбылося пятае пасяджэнне Камітэта СЭУ па навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву. Камітэт абмеркаваў ход супрацоўніцтва ў галіне аховы і паляпшэння навакольнага асяроддзя і звязаная з гэтым рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў.

### ВОЗЕРА БІВА...

...адно з самых буйнейшых і прыгожых азёр Японіі, забруджана прамысловымі адходамі да такой ступені, што неабходна неадкладна ставіць пытанне аб забароне выкарыстоўваць яго ваду для патрэб насельніцтва.

### ПЕРШАЕ МЕСЦА...

...у дарожных выпадках сярод заходнееўрапейскіх краін займае Італія. У мінулым годзе было тут 175 тыс. дарожных выпадкаў, г. зн. у два разы больш, чым у Францыі, Вялікабрытаніі і ФРГ разам узятых. (ак)

### ВЫБАРЫ

У нядзелю, 17 чэрвеня, адбыліся выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных. Яны з'явіліся важнай падзеяй у жыцці беларускага народа. Так' гэтую падзею ацаніў Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Ф. А. Сурганаў. Утворана было 6.410 выбарчых участкаў — на 88 больш, чым у час папярэдніх выбараў у 1971 годзе. У дэпутаты кандыдавала 80.014 чалавек — прадстаўнікі ўсіх слаёў беларускага грамадства. Сярод іх колькасць рабочых у параўнанні з папярэднімі выбарамі ўзрасла з 30,7 да 33,8 працэнтаў, жанчын — з 45 да 46,2 працэнта, членаў Камсамола — з 15,1 да 18,2.

У Саветы выбраны былі самыя дастойныя сыны і дочкі народа, якія на справе даказалі сваю адданасць Радзіме і гатоўнасць служыць ёй.

Варта адзначыць, што жыхары васьмі гарадоў Беларусі выбіралі ўпершыню сваіх дэпутатаў у гарадскія Саветы, бо гарадамі яны сталі толькі за апошнія два гады.

### БЕЛАРУСЬ — ЛІТВА

Працоўныя дзвюх савецкіх рэспублік Беларусі і Літвы ўжо доўгі час спаборнічаюць за паспяховае выкананне плана трэцяга, рашаючага года дзевятай пяцігодкі. Нядаўна Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне БССР апублікавала чарговыя вынікі гэтага спаборніцтва. Па выкананню плана рэалізацыі прадукцыі Беларусь абагнае Літву на 7 дзесятых працэнта, па тэмпе росту вытворчасці валавой (агульнай) прадукцыі ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года — на 4 працэнты, але Літва мае лепшыя вынікі па прадукцыйнасці працы — на 7 працэнтаў. Спаборніцтва прадаўжаецца.

### НА БУДОВЕ Ў ВАЎКАВЫСКУ

На буйнейшым у БССР заводзе па выпуску ванны, будаўніцтва якога вядзецца ў раёне Ваўкавыска, пачала працаваць першая тэхналагічная лінія. Прадпрыемства разлічана на выпуск у год 300 тысяч тон камяковай і молатай ванны. Будаўнікі завода спаборнічаюць за тое, каб да канца гэтага года ўвесці ў дзеянне яшчэ дзве тэхналагічныя лініі.

### ПЛЕНУМ АБКОМА

Адбыўся пленум Гомельскага абкома КПБ. За мінулыя два гады пяцігодкі аб'ём прамысловай вытворчасці ў вобласці ўзрос на звыш 18 працэнтаў. На гэтай базе расце матэрыяльны і культурны ўзровень насельніцтва.

### Ў САЎГАСЕ

Прыемна прайсціся па вуліцах саўгаса „Навасёлкі". Паабапал дарогі стаяць Палац культуры, бытавыя памяшканні, добрыя дамы рабочых саўгаса. У мінулым годзе саўгас прымаў удзел ва ўсесаюзным конкурсе-аглядзе на лепшую забудову вёскі і быў узнагароджаны дыпломам „Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР". (вр)

### ДЭЛЕГАЦЫЯ МАРАКОЎ У Э. ГЕРКА

Напярэдадні „Дзён Мора" І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і прэм'ер П. Ярашэвіч прынялі дэлегацыю працаўнікоў марской гаспадаркі. Уклад марской гаспадаркі ў агульнадзяржаўную ўсё расце.

### УРАДАВАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ СССР У ПОЛЬШЧЫ

Урадавая дэлегацыя СССР пабывала ў Польшчы на Пазнанскім кірмашы. Яна была таксама прынята І сакратаром ЦК Э. Геркам і прэм'ерам П. Ярашэвічам.

### Э. ГЕРЭК НА ЛЮБЛІНШЧЫНЕ

І сакратар ЦК наведаў Люблінскае ваяводства. Ён быў, між іншым, на драўнінным прадпрыемстве ў Лукове, а таксама пазнаёміўся з развіццём жывёлагадоўчай гаспадаркі ў раёне канала Вепш—Кшна.

### ПОЛЬСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў ГДР

Па запрашэнню ЦК Германскай сацыялістычнай партыі адзінства і Савета Міністраў ГДР пабывала ў нашых суседзяў з афіцыйным візітам дружбы партыйна-ўрадавая дэлегацыя ПНР пад кіраўніцтвам І сакратара ЦК Э. Герка і прэм'ера П. Ярашэвіча. Тыдзень перад візітам польскай дэлегацыі быў у ГДР тыднем польскім. Тэлевізія, радыё, прэса прадстаўлялі матэрыялы з Польшчы, былі польскія выстаўкі і сустрэчы.

### 25 ГОД ДРУЖБЫ З ВЕНГРЫЯЙ

Мінула 25 год ад моманту падпісання дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе паміж ПНР і Венгерскай Народнай Рэспублікай. З гэтай нагоды найвышэйшае партыйнае і ўрадавае кіраўніцтва абедзвюх краін абмянялася віншавальнымі тэлеграмамі.

### ПЛЕНУМ ВАРШАЎСКАГА КАМІТЭТА ПАРП

З удзелам І сакратара ЦК Э. Герка адбыўся Пленум Варшаўскага камітэта партыі. Быў ён прысвечаны выкарыстанню навуковага патэнцыялу Варшавы для развіцця краіны і самой сталіцы. У пленуме ўдзельнічалі прадстаўнікі ўсіх навуковых асяроддзяў сталіцы, а таксама партыйны актыў варшаўскіх прадпрыемстваў і ўстаноў. Пленум вёў работу ў Інстытуце электратэхнікі ў Мендзылессі.

### МАЛАДЫЯ ГАСПАДАРЫ Ў БЕЛЬВЕДЭРЫ

Старшыня Рады Дзяржавы ПНР Г. Яблонскі прыняў у Бельведэры пераможцаў спаборніцтва, якое арганізаваў ЗСМВ для маладых гаспадароў. Былі гэта пераможцы за званне маладога майстра ўраджаю. 34 тысячы хлопцаў і дзяўчат прынялі ўдзел у гэтым спаборніцтве.

### ТРЫ РАЗЫ Ў МУЗЫЦЫ

Распачаўся у Лёндку-Здрою IX фестываль рускай і савецкай музыкі. Будуць выконвацца тут творы самых вялікіх рускіх і савецкіх кампазітараў. А ў Камені Паморскім, на другім канцы краіны, распачаўся таксама IX фестываль арганнай музыкі. Гэты фестываль будзе працягвацца да канца лета. Фестываль савецкай песні, таксама IX, закончыўся ў Зялёнай Гуры. (вл)

### РАЙСКУ — КРЫЖ ГРУНВАЛЬДУ

Вёсцы Райск, Бельская павету, прысвоена высокая дзяржаўная ўзнагарода Крыж Грунвальду ІІІ класа, якая прысвойваецца за заслугі ў баях і за асаблівыя заслугі ў абароне Айчыны. Гэта ўжо другая мясцовасць у нашым ваяводстве, атрымаўшая такую высокую ўзнагароду (нядаўна мы пісалі аб Ліпску у Дуброўскім павеце).

У нядзелю, 17 чэрвеня з'ехаліся ў Райск шматлікія госці: член ЦК, кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ЦК ПАРП Т. Палімонка, віцэ-міністр унутраных спраў ген. брыг. М. Мілеўскі, намеснік камандзіра Варшаўскай вайсковай акругі ген. брыг. Р. Дзяпанаў, ІІ сакратар ВК ПАРП Ул. Юшкевіч, сакратар ВК ПАРП Я. Златажынскі, старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха, старшыня ВК ФАН С. Кудла, старшыня Ваяводскага грамадзянскага камітэта па ахове помнікаў барацьбы і мучэнняў, намеснік старшыні ПВРН Р. Лазаровіч і іншыя.

Крыж Грунвальду ІІІ класа, прысвоены Райску Радай Дзяржавы ПНР, уручыў тав. Т. Палімонка. Прымала Крыж дэлегацыя вёскі — Я. Шумская, П. Гадзіна і С. Чэчуга. Ва ўрачыстасці прымала ўдзел дэлегацыя жыхароў Ліпска. Рэпартаж аб гэтай падзеі — у адным з наступных нумароў.

### НА СУВАЛЬШЧЫНЕ

Ад 14 чэрвеня на Сувальшчыне працуе група шведскіх вучоных на чале з праф. д-рам Кнутам Олафам Фалькам. Яна вядзе даследаванні над некаторымі праблемамі, звязанымі з назвамі азёр і прылад, якімі карысталіся раней на літоўска-мазурска-падляшскім пагранічча. Гэта адна з груп, працуючых у рамках т. зв. яцвяжскай экспедыцыі.

16 чэрвеня праф. Фалька разам з жонкай і д-рам С. Самуэльсонам прыняў старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха. На сустрэчы прысутнічалі таксама прадстаўнікі навукі ў нашым ваяводстве. За вялікія заслугі ў вывучэнні Беласточчыны і за абарону польскай справы ў перыяд гітлераўскай акупацыі (праф. Фальк выдаў у 1941 годзе працу „Воды вігерскія і гуцянскія") намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч уручыў госцю памятны медаль Грамадзянскага камітэта па ахове помнікаў барацьбы і мучэнняў, а старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха — падарункі ў форме альбомаў і рэгіянальных дыванікаў. Шведскія вучоныя ўдзельнічалі таксама ў супольным надзвычайным пасяджэнні сената Медыцынскай акадэміі і прэзідыума Беластоцкага навуковага таварыства.

### ЛІТОЎСКІЯ ГОСЦІ

У гэтых днях на Беласточчыне прабывала сельскагаспадарчая дэлегацыя Літоўскай ССР, у склад якой уваходзілі Ю. Бернатовічус — кіраўнік сельскагаспадарчага аддзела ЦК КП Літвы, Ю. Венскутоніс — кіраўнік сельскагаспадарчага аддзела Рады Міністраў, В. Ажунас — намеснік міністра сельскай гаспадаркі і В. Эйнорыс — намеснік міністра нарыхтовак. Літоўскія госці наведалі хімічна-сельскагаспадарчую станцыю ў Пісаніцы, дзяржаўныя гаспадаркі ў вёсках Лега і Залессе, пабывалі на мясакамбінаце ў Беластоку, на Візненскім лугавым камбінаце і інш. (яч)




**Niedziela 24.VI.**

7.30 Program dnia. 7.35 TV Kurs Rolniczy. 8.10 „Przypominamy, radzimy". 8.20 „Radar". 9.00 Dla młodych widzów. 9.40 Gra Orkiestra TV Katowice. 10.10 „Antena" 10.25 „Interstudio". 11.00 Centralne obchody Święta Morza. 12.00 Dziennik. 12.15 Koncert promenadowy z Berlina. 13.15 „Przemiany". 13.45 „Sahara znana i nieznana" („Klub Sześciu Kontynentów"). 14.25 Losowanie Totolotka. 14.40 „Kraje RWPG" — teleturniej. 15.30 „Od kilu po top" („Pokochać wiatr"). 16.00 „Tele-Echo". 17.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 18.45 „Forum". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 XI Krajowy Festiwal Piosenki Polskiej w Opolu. „Koncert finałowy". W przerwie ok. 22.05 PKF. 22.15 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 25.VI.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Świat wiedeńskich dachów" — film dok. austr. 17.00 „Echo stadionu". 17.30 „Sylwetki X Muzy" — Krzysztof Chamiec. 17.55 TV Kurier Kielecki. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: B. Brecht — „Kariera Artura Ui". 21.45 „Refleksje". 22.15 Dziennik. 22.30 Gra na flecie Elżbieta Dastych-Szwarc. Przy fortepianie — Anna Stąpor.

**Wtorek 26.VI.**

10.00 „Tydzień pełen wrażeń" — film fab. czechosł. 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16. „Zwyczaje i obrzędy". 17.10 „Prom do Helsinek" („Morskie spotkania"). 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEFERIE. 19.15 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Osiem i pół" — film fab. wł. 22.35 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Środa 27.VI.**

10.00 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Osiem i pół" — film fab. wł. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.15 „Doktorant" — film dok. 17.55 „Spacerkiem po kinach". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Orbita". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Święty" — film ang. 21.05 „Świat i Polska". 21.50 „Artyści, których podziwiamy" — Barbara Hesse-Bukowska. 22.30 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 28.VI.**

10.00 „Święty" — film ang. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Śpiewa Ryszard Tarasewicz. 16.55 PKF. 17.05 „Chata pełna muzyki" — I program nowego cyklu poświęcony polskiemu folklorowi. 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.45 „Kwadrans akademicki". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Oficer śledczy" — film fab. radz. 21.40 „Forum". 22.15 „Ekspres nr. 29". 22.45 Dziennik. 23.00 Wiadomości sportowe.

**Piątek 29.VI.**

10.00 „Oficer śledczy" — film fab. radz. 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Nie tylko dla pań". 17.10 „Za kierownicą". 17.40 TV Kurier Warszawski. 18.00 TELEFERIE. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Zespół Flotylla" — program rozr. 20.55 „Panorama". 21.35 Teatr TV: K. Szakonyi — „Zakłócenia w odbiorze". 22.35 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 30.VI.**

10.00 FILMY RENE CLAIRA: „Milczenie jest złotem" — film fab, franc. 15.40 Program dnia. 15.45 Program I proponuje. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 „Turystyka i wypoczynek". 17.05 „Przegląd mody" — program TV Czechosł. 17.45 „Poligon". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Teatr Rozrywki: A. Asnyk — „Komedia konkursowa". 21.15 FILMY RENE CLAIRA: „Milczenie jest złotem" — film fab. franc. 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe. 23.15 „Italia z sercem na dłoni" — program rozr. wł.




**Piątek, 22 czerwca**

7.45 Film seryjny. 10.00 Koncert. 10.30 Piłka nożna (ZSRR — Brazylia), powtórzenie. 13.10 Program dnia. 13.15 Dla szkół. 16.10 Film animowany dla dzieci. 17.00 Koncert. 18.30 „Czas". 21.25 Panorama nowin.

**Sobota, 23 czerwca**

7.00 Program dnia. 7.30 Film seryjny. 11.00 Filmy animowane dla dzieci. 12.50 Program muzyczny. 13.15 Przegląd międzynarodowy. 16.10 Spektakl. 18.30 „Czas". 19.30 Koncert „Głosy młodych".

**Niedziela, 24 czerwca**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 10.30 Szkoła szachowa. 11.30 Film seryjny. 13.00 Piłka nożna („Dynamo" — CSKA). 17.15 Koncert artystów baletu. 18.30 „Czas". 20.55 Piłka nożna („Dynamo" Mińsk — „Dynamo" Kijów).



 

## Ґайнавянкі ходзяць да „Практычнай пані"

Цэнтр ВСС „Практычная пані" ў Гайнаўцы вядомы ўсім жыхарам гэтага горада. Дзейнічае ён ад 1967 года. У цэнтры „Практычная пані" можна навучыцца шыць, рацыянальна харчавацца, можна таксама зрабіць модную прычоску, адрамантаваць гадзіннік і г.д. Апрача таго, „Практычная пані" арганізуе розныя конкурсы, як, напрыклад, „Гаспадарым ашчадна — адпачываем культурна" і інш., паказы моды і курсы для жанчын. Усе яны карыстаюцца вялікім зацікаўленнем. Толькі ў першым квартале гэтага года з паслуг „Практычнай пані" скарысталася 8 300 асоб. Добрая праца цэнтра паслуг гэта заслуга яго кіраўніка Аліцыі Янкоўскай і членскага камітэта ў складзе: Галіна Назарка, Тэрэса Рамаcоўская, Галіна Садоўская, Ірэна Пазэра (старшыня) і Валянціна Мацута.

Варта дадаць, што яшчэ ў гэтым годзе гайнаўскі цэнтр „Практычная пані" павялічыць асартымент паслуг. Будзе адкрыта новая цырульня і кравецкае прадпрыемства.

(ця)

## Грамадскі чын жыхароў Паўлаў

Жыхары вёскі Паўлы Беластоцкага павету шырока вядомы сваімі грамадскімі чынамі. У канцы мая гэтага года выканалі яны вялікі грамадскі чын пры рамонце 5 км дарогі Паўлы — Рыбалы. Працягваўся ён 4 дні. Дарогу рамантавала 150 асоб, у тым ліку каля ста асоб з фурманкамі. Да чыну мабілізаваў сваіх аднасяльчан солтыс Васіль Галубоўскі.

Варта дадаць, што за прыкладам паўлаўцаў да грамадскага чыну прыступяць жыхары суседняй вёскі Цялушкі. У будучыні па дарозе Цялушкі — Рыбалы будзе хадзіць аўтобус.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



# Меляшкоўскі каравай

Аматарская пастаноўка сапраўднага вясковага вяселля расславіла ў апошні час вёску Меляшкі ва ўсім беларускім і не толькі беларускім асяроддзі. Не адзін глядач першы раз у жыцці скаштаваў па-дзявочаму чыстае, народнае цеста — каравай.

Мала хто аднак ведае пра тое, як і на штодзень бойкае меляшкоўскае месіва буйна бульгае, падрастае і лепіцца па-новаму, дзякуючы жвавым рукам мясцовых кабетак.

„Расці, расці каравай, цыцаты, бо ляпілі цябе каравайнічкі цыцаты".

Паверце мне, не пустыя гэта словы. Мала ў якой вёсцы так добра гадуюцца дзеці, такой струёю льецца ў іх прагныя роцікі мацярынскае малако. Шыкуцяву можна было б ставіць за прыклад усім гарадскім мацеркам. Новы доказ — адмыслова адгадаваныя хлопцы-блізнюкі, што весела брыкаюць па панадворку. Меркай энергіі гэтых некалькігадовых юнакоў могуць служыць шматлікія гузы ды сінякі, прыдбаныя падчас адкрыўчых вандровак і бітваў, ведзеных за свабоду малога чалавека.

Нездарма штогод у меляшкоўскай школе арганізуецца дзяцінец, які ў працавітую летнюю пару здымае з жаночых плеч найклапатлівейшы цяжар. Вялікая ў гэтым заслуга дырэктара школы сяброўкі Літвінавай. Ды не толькі ў гэтым яе заслуга. Гэтая надзвычай энергічная жанчына — не толькі настаўнік. Яна і дарадчык людзям, і паданне напіша каму трэба, і аматарскім гуртком пакіруе. Яна не толькі жыве ў вёсцы, але жыве яе жыццём.

А новае ўсё лепіцца. Плешчуцца ў мясцовых сажалках карпы, паяўляюцца кожны год новыя гектары плантацый трускалак, хтосьці і сярэбраных мільёнаў завёў (пчол — рэд.), расце безупынна пагалоўе хатняй жывёлы. Дзве сям'і ўжо абзавяліся навенькімі „Масквічамі".

Пэўна, не ўсё яшчэ і тут добра. Буйнае меляшкоўскае цеста, напэўна не без закальца бывае. Былі ў вёсцы чалавечыя драмы, вышчарбіла яе некалькі пажараў. Адным словам, розна бывала. Навошта аднак успамінаць дрэннае, калі на двары вясна і меляшкоўцы дружна думаюць пра новы, лепшы ўраджай.

**Ларс,**
Беластоцкі павет



## Сад і вінаград — парада тым, хто любіць яблыкі

Аднойчы на рынку ў Бельску прадавалі, праўда, вельмі прыгожыя яблыкі, але па 25 злотых за кілаграм. Гэта каштуе столькі, колькі ўвосень адзін прышчэп яблыні ці ігрушы. Калі хочам, каб наша краіна была прыгожай і багатай, таму ўжо цяпер трэба запланаваць асеннюю куплю некалькіх прышчэпаў яблыні, ігрушы, ці чарэшні, адпаведна падрыхтаваць месца пад пасадку гэтых дрэў. Таксама варта падумаць хоць бы пра адзін корч вінаграду. Саджанцы яго можна яшчэ цяпер дастаць бясплатна ў аўтара гэтай інфармацыі, які жыве ў Бельску на вуліцы Ганкі Савіцкай 4. Ён ужо раздаў людзям 857 штук вінаградніку, а яшчэ засталося, каб раздаць, каля 500 штук. Трэба выкарыстаць гэтую магчымасць, а тады пабачыце, як вашы дзеці і ўнукі будуць вам удзячны.

**Нестар Перавой,**
Бельск

## ФАЛЬКЛОР

### ЖАРТОЎНАЯ

Allegro

Дів-чы-нонь-ко мо-я, чом ты та-ка бе-ла?

Чы ты ў по-лю нэ бы-ла, чом нэ за-го-рэ-ла -рэ-ла?

*— Дівчынонько моя, чом ты така бела?*
*Чы ты ў полю нэ была, чом нэ загорэла?*
*Чы ты ў полю нэ была, чом нэ загорэла?*
*— А я ўполю была, пшэнічэньку жала.*
*Як сонэчко прыпэкло, у борозне лежала,*
*Як сонэчко прыпэкло, у борозне лежала,*
*Ішлі, ішлі чорнозёмці,*
*Знайшлі дзеўку ў борозёнці.*
*— Ніц нэ будэ за то мне,*
*Што лежала ў борозне,*
*Ніц не будэ за то мне,*
*Што лежала ў борозне.*

Ад Сакоўскай Веры, 1925 года нараджэння, вёска Новакорніна Гайнаўскага павету запісаў 9 мая Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

## Засмечваецца агарод

Днямі наведаў нашу рэдакцыю жыхар Старога Ляўкова Гайнаўскага павету Павел Пякарскі, які паведаміў аб тым, якая крыўда дзеецца яму з боку жыхароў з суседняга жылога блока. Сыплюць яны рознае смецце ля плота, а вецер разносіць паперу па цэлым яго агародзе. На жыхароў блока (з'яўляюцца імі перш за ўсё рабочыя мясцовай керамічнай фабрыкі) няма ніякай рады.

— Можа крытыка ў газеце адменіць суседзяў, — сказаў на развітанне П. Пякарскі. Зусім выпадкова давялося нам праязджаць дарогаю ля фабрыкі, і сапраўды ўбачылі мы засмечаны агарод нашага наведвальніка. Сорам, жыхары блока! Жыць па-гарадскому — гэта не значыць не бачыць крыўды суседа.

(ця)




У кнігарні імпартных выданняў у Бельску-Падляшскім можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Купала Янка, Збор твораў у сямі тамах. Том І, 1972, стар. 534, цана 13 зл. 80 гр.

Юбілейнае выданне твораў вялікага беларускага паэта з нагоды 90-ай гадавіны з дня яго нараджэння. У першы том увайшлі вершы і пераклады гадоў 1904 — 1907.

Дзяргай Сяргей, Выбранае, 1967, стар. 288, цана 10 зл. 40 гр.

Том паэзіі старэйшага сучаснага беларускага пісьменніка, лаўрэата літаратурнай прэміі імя Я. Купалы. С. Дзяргай выступіў у літаратуры ў 1938 годзе, калі яму споўніўся ўжо 31 год і ён меў за сабою доўгі працоўны шлях і багаты жыццёвы вопыт. Паэт вядомы таксама як перакладчык, у тым ліку і твораў польскіх пісьменнікаў на беларускую мову.

Чыгрынаў Іван, Плач перапёлкі, 1972, стар. 312, цана 6 зл. 20 гр.

Першы буйны твор сучаснага беларускага пісьменніка сярэдняга пакалення. З І. Чыгрынавым як дасканалым майстрам беларускай прозы чытач пазнаёміўся па двух зборніках яго апавяданняў „Птушкі ляцяць на волю" (1965) і „Самы шчаслівы чалавек" (1967). „Плач перапёлкі" — гэта патрасаючы вобраз трагічных дзён пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Дубоўка Уладзімір, Жоўтая акацыя, 1967, стар. 288, цана 6 зл. 80 гр.

Творчасць Уладзіміра Дубоўкі, старэйшага беларускага пісьменніка, першы верш якога паявіўся ў друку ў 1921 годзе, шырока вядома ў Беларусі і па-за яе межамі. Наогул мы ведаем яго як таленавітага паэта і аўтара займальных вершаваных казак. Цяпер жа перад намі не менш цікавая рэч — навукова-прыгодніцкая аповесць для юнацтва „Жоўтая акацыя". У ёй аўтар канцэнтруе нашу ўвагу на пошуках і знаходках юных натуралістаў, іх пашане да прыроды і імкненнях зрабіць яе яшчэ прыгажэйшай.

Кнігарня імпартных выданняў у Бельску-Падляшскім ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki", Bielsk Podlaski, ul. Mickiewicza 70, woj. białostockie.

(мг)






## Сцяпан Вэйкоўскі

Адным з лепшых гаспадароў у Нараўскай гміне з'яўляецца Сцяпан Вэйкоўскі з вёскі Адрынкі Гайнаўскага павету. Вядзе ён 9-гектаравую гаспадарку. Займаецца вырошчваннем жыта, аўса і ячменю, а таксама гадуе кароў і свіней. Пад збожжа дае ён дакладна акрэсленыя колькасці мінеральных угнаенняў. Атрымлівае найлепшыя ўраджаі жыта і аўса, а таксама бульбы. У мінулым годзе прадаў ён дзяржаве 1100 кілаграмаў жыта і 4000 кілаграмаў бульбы. У тым жа годзе на пункт скупкі ў Нарве даставіў ён 4 свінні агульнай вагою 1500 кілаграмаў, а ўжо сёлета — 5 свіней.

Сцяпан Вэйкоўскі намераны ў будучыні заняцца гадоўляй кароў, паколькі мае чатыры гектары меліяраваных і загаспадараных сенажацяў. Трымае 6 кароў, але колькасць іх мае намер падвоіць. Ёсць у яго добры кароўнік і новая клуня. Хапае кармоў.

Ужо пару гадоў Сцяпан Вэйкоўскі вядзе доследныя палеткі з аўсом і жытам, а сёлета з бульбай. Мае ён таксама ўзорнае пасбішча, на якім растуць высокаўраджайныя сарты траў.

Дом у Сцяпана Вэйкоўскага мураваны. Пабудаваў ён яго тры гады таму назад. У сярэдзіне дом прыгожа памаляваны, ёсць новая мэбля, тэлевізар. Гаспадар задумаў яшчэ падключыць ваду і абсталяваць ванну.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## ◆ РЫЗЫКА ◆

Кукін, пагладзіўшы жонку, якая плакала ў яго на грудзях, расцалаваў развітальна дзетак і сказаў:

— Мне час...

Яшчэ раз з сумам у вачах аглянуўся:

— Шкада. Зусім нядаўна кватэру атрымаў. Так і не пажыў. І наогул я мала жыў.

— А мо, яшчэ і абыдзецца? Мо, толькі перахварэеш? Га-а, Дзміцер?

— Наўрад. Хоць і магчыма. Тады інваліднасці не мінуць. Калі паралізаваным прынясуць, даглядаць будзеш?

— Буду, Дзміцер!

— Тату, а ты не ўсю выпівай, выхлюпні куды-небудзь.

— Нельга, сынку, яшчэ ўспыхне пажар. Ну, мне пара. На ўсялякі выпадак... Калі са мною нешта... Я вас любіў. Не ўспамінайце ліхім словам... Пахавайце ў шэрым, улюбёным маім касцюме. Гальштук каб быў у палоску, але каўнерчык не моцна зацягвайце. Кнігі — дзецям. Сабе выпішы „Сям'ю і школу", цесцю — „Пытанні філасофіі". Цешчы скажы, што я ні ў чым не вінаваты. Яшчэ што? Так... Ты значыць... другі раз... ну... замуж...

— Не пайду, Дзміцер! Адналюбка я!

— Ну, што ж. Калі прыстойны...

— Пайду, Дзміцер, пайду! Як скажаш, так і будзе!

— Ну, бывайце! Эх, мне б там хоць паўгадзіны пратрымацца.

На працы Кукіна ўжо чакалі. Члены прыёмнай камісіі, дырэкцыя, журналісты.

— Таварышы, — урачыста сказаў дырэктар. — Зараз вы пераканаецеся ў якасці гатовых ачышчальных прыладаў нашага нафтаперапрацоўчага завода. Начальнік цэха ачысткі таварыш Кукін на вашых вачах вып'е шклянку той вады, якую мы будзем спускаць у рэчку. І не скрывіцца. Прашу хвілінку ўвагі!

Кукін устаў і пайшоў на шклянку...

**Эдуард Угулава**

### ЦІШЫНЯ



*— Калі б ты ведаў, як мяне раздражняе шум прыбою!*

### СУПАКОЙ

На параходзе ўспыхнуў пажар. Пачалася мітусня, кожны пасажыр, не звяртаючы ўвагі на іншых, імкнуўся выбрацца на палубу. Паніка спынілася толькі тады, калі раздаўся звычны голас: „Панове, супакойцеся! Вады хопіць для ўсіх".



**...Ён кінуўся ратаваць патанаючага, ды абмежаваўся тым, што выратаваў сябе.**

**...Ён з вады выйшаў сухім — прамок на сушы.**



*— Кыш! Праклятая птушка!*

## „Вадалаз"

Раз на трактары з плугамі
Ясь прыпёр суседу з крамы
Халадзільнік. І сусед
Рэч рашыў абмыць як след.

Біў паклоны Ясь бутэлькам,
Насцябаўся ледзь не ў сцельку,
Слоў не можа двух звязаць —
Едзе поле ён араць...

А далей было ўсё проста —
Загрымеў наш дзядзька з моста...
З таго часу ўсе у нас
Клічуць Яся „Вадалаз"...

**Уладзімір Захарэвіч**

## МІНІБАЙКІ

НЕ БУДЗЕ ЯНА СПЯВАЦЬ!

Рак распарадзіўся:

— Каб у мяне ўвесь ставок ахапіць самадзейнасцю!

— А што Рыба будзе рабіць... у самадзейнасці, таварыш Рак?

— Спяваць будзе.

— Ды не будзе яна спяваць, таварыш Рак!

— У мяне будзе. Хопіць мне толькі свіснуць... адразу заспявае.

Як вы думаеце, калі рыба заспявае? Правільна: калі рак свісне.

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**

### ЛОРД-ЗАДАВАКА

У свецкім салоне лорд выхваляецца сваім генеалагічным дрэвам. Скептык гаворыць:

— Хутка вы скажаце, што вашы продкі былі ў Ноевым каўчэзе.

— Ніколі ў жыцці! У той час у іх ужо была ўласная яхта.

### КУДЫ ЎПУСЦІЎ

На набярэжнай Марселя цераз парапет нахіліўся мужчына і нешта ўважліва разглядае ў вадзе.

— Вы што-небудзь упусцілі? — спачувальна пытае прахожы.

— Так, учора я ўпусціў у Атлантычным акіяне свае акуляры!

— Дык гэта ж Міжземнае мора, чорт вазьмі!

— На самай справе? Без акуляраў так лёгка абазнацца...

### АНГЛІЧАНКА

Бура. Шторм. Патанае карабль.

Англічанка падыходзіць да капітана:

— Выбачайце, сэр, дзе тут лодка для некурачых?



*Самаабарона.*



*— Вось да чаго давяло захапленне майго сына падводным плаваннем!*

### З ІНДЫЙСКАГА

У вадзе не сварыся з кракадзілам.

*

Дома — леў, а за яго межамі — авечка.

*

Калі ўспыхнуў пажар, позна капаць калодзеж.

*

Сярод сляпых і крывы — прыгажун.

*

Падлізванне — самая ходкая манета.

*

Глупства страху не ведае.

### З ТУРЭЦКАГА

Калі Бу Адам быў дзіцём, аднойчы да іх дома падыйшоў падарожны.

— Сын мой, дай мне паесці хоць што-небудзь з таго, што вы елі.

— А што мы елі? — адказаў Бу Адам. — Уначы бацька „з'еў" ад маці многа палачных удараў, а ўдзень я ад настаўніка „з'еў" не менш!

— Ды павялічыць алах вашa харчаванне, — сказаў падарожны і пайшоў.

### З АФГАНСКАГА

Нейкі чалавек дружыў з адным скнарам. Аднойчы ён сказаў скнару:

— Я збіраюся ў падарожжа. Пазыч мне сваю палку. Кожны раз, як толькі пагляджу на яе, то абавязкова цябе ўспомню.

Скнара адказаў:

— Калі ты хочаш успамінаць мяне, то лепш калі ў цябе будуць пустыя рукі, таму што кожны раз, як паглядзіш, што ў цябе нічога ў руках няма, абавязкова мяне ўспомніш.

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

**Па просьбе Ніны Іванюк і Ніны Руты з Грабаўца Гайнаўскага павету змяшчаем песню**

## DO ZOBACZENIA

Bywaj zdrów trzymaj się
Nie zapomnij bracie mnie
Już odpływamy w daleki rejs.
Pokład nasz chwieje się
Kołysanie męczy mnie
Ocean na nas pewnie gniewa się
Do zobaczenia nie zatrzymuj mnie
Do zobaczenia czas pożegnać się.
Napiszę krótki list
Nim odpowiem ci
Ładnie tu czy brzydko
Dobrze czy źle
Czy mam dziewczynę już czy nie
Do zobaczenia nie zatrzymuj mnie
Do zobaczenia czas pożegnać się
Cierpliwie czekaj więc
Wkrótce dowiesz się
Czy ta dziewczyna jest ładna czy nie
Jakie oczy ma czy kocha mnie
Cierpliwie czekaj więc...



### УСЮДЫ ТАЯ Ж

Да адзінокай выспы з апошніх сіл даплывае адзін з пацярпеўшых караблекрушэнне. Яго сустракае жонка, якая выратавалася раней.

— Куды ты прапаў, нягоднік, карабль жа патануў яшчэ ўчора!

### ЧАМУ?

На мосцік акіянскага лайнера ўбягае ўсхваляваны матрос і крычыць:

— Капітан! Мне здаецца, што наш карабль працякае.

— Чаму ты так думаеш?

— У плавальным басейне акула!

### ЗАПІС

Капітан запісаў у суднавым журнале: „Штурман сёння быў п'яны". Праз некалькі дзён дзяжурыў штурман. Ён запісаў у суднавым журнале: „Сёння капітан быў цвярозы".

*Часам капітан аказваецца на дне раней, чым карабль.*



### ВЯРТАННЕ ГАСПАРЫЛЫ



З усіх флібуст'ераў — а гэтым словам называюць піратаў, дзейнічаючых у водах Карыбскага мора, — найбольшай славы дабіўся Хосе Гаспарылья. Кожны год у лютым ён становіцца героем свята ў амерыканскім мястэчку Тампа на заходнім узбярэжжы Фларыды. На гарадской ратушы нават узвіўся замест звычайнага флага „Вясёлы Роджэр" з чэрапам і дзвюма касцямі на чорным фоне. Той самы флаг і на мачце карабля „Хосе Гаспарылья", які пад гарматны гром (выстралы-халастыя) уваходзіць у гавань Тампы. Размахваючы бутафорскімі шаблямі і пісталетамі, „піраты" прыступам бяруць горад.

Немалаважная падрабязнасць — шматлікія флібуст'еры ніяк не нагадваюць кроважэрных піратаў. Гэта дзяўчыны, выбраныя на ролю піратак зусім не за люты выгляд.

Калі гарматы моўкнуць, настае чарга муз. Танцы і весялосць пануюць два дні, якія атрымалі назву „Дзён Гаспарылы". Пасля гэтага карабль адплывае на стаянку да наступнага года.

Поспех фестываляператварыў імя Гаспарылья ў вясёлую легенду, хоць высадка ў Тампе ў свой час зусім не была спалучана з такой ужо весялосцю для жыхароў.

